Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 20 530.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 8549

# НАВІНЫ



Пятніца, 26 чэрвеня 1998 г. № 68 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Амбасады без начальства

**Беларусь працягваюць пакідаць амбасадары замежных краінаў.**

Следам за паслами дзяржаваў Еўрапейскага Саюза і ЗША з Мінска выехалі кіраўнікі японскай, турэцкай, балгарскай, літоўскай і польскай дыпламатычных місіяў. Дарэчы, у сераду міліцыянты не дазволілі польскаму паслу Марыюшу Машкевічу праехаць на тэрыторыю рэзідэнцыі ў Драздах, каб забраць асабістыя рэчы і дзяржаўны сцяг Польшчы.

Ад'езд амбасадараў не азначае канчатковага згортвання дыпламатычных стасункаў з Беларуссю. Кіраваць пасольствамі ў Мінску будуць часова паверaныя ў справах. Салідарнасць з пазіцыяй іншых краінаў праявіла і Фінляндыя, МЗС якой рэкамендаваў свайму паслу ў Беларусі, пастаянная рэзідэнцыя якога знаходзіцца ў Вільні, устрымацца ад паездак у Мінск. Няяснай пакуль застаецца пазіцыя Індыі.

Такім чынам, у Беларусі застаюцца толькі паслы Югаславіі, Кітая і Кубы, а таксама Расіі і іншых дзяржаваў СНД.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Паслы злятаюцца ў Мінск

**У Мінск вяртаюцца беларускія паслы, акрэдытаваныя ў краінах Захаду.**

Ужо вярнуліся на радзіму пасол Беларусі ў ФРГ Пётр Бяляеў, пасол у ЗША Валерый Цэпкала і пасол у Японіі Пётр Краўчанка. Пакуюць чамаданы кіраўнікі нашых дыпламатычных прадстаўніцтваў і ў іншых краінах Захаду. Іх фактычна высылаюць у Беларусь, каб яны папулярна растлумачылі свайму прэзідэнту палажэнні Венскай канвенцыі аб дыпламатычных зносінах.

**А.Д.**

Высокапастаўлены прадстаўнік Дзяржадэпартамента ЗША Джэк Сегал 25 чэрвеня ў амерыканскай амбасадзе ўручыў маці і жонкам беларускіх палітзняволеных ліст ад першай лэдзі ЗША Хілары Клінтан, адрасаваны жанчынам Беларусі. Гэтае пасланне з'яўляецца адказам на пісьмо, перададзенае спадарыні Клінтан 6 траўня членам аргкамітэта Хартыі-97 Людмілай Гразновай, а таксама Галінай Сіўчык, Раісай Шыдлоўскай, Ядзвігай Лабковіч, Таццянай Севярынец і Людмілай Шарамет, у якім жанчыны заклікалі Хілары Клінтан падтрымаць іх намаганні ў праваабарончай дзейнасці і ўсталяванні дэмакратыі на Беларусі.

Мы друкуем поўны тэкст пасланне Хілары Клінтан.

## Ліст ад першай лэдзі ЗША

*«Дарагія жанчыны Беларусі. Дзякуй за ваш ліст з Мінску. Я з прыемнасцю ўспамінаю наш з прэзідэнтам Клінтанам візіт на Беларусь у 1994 годзе.*

*Пагаршэнне становішча з абаронай правоў чалавека на Беларусі непакоіць кожнага, хто клапоціцца аб правах асобы і сям'і на жыццё ў годнасці, свабодзе і бяспецы. У вас ёсць балючы асабісты вопыт тых шматлікіх шляхоў, якімі ўлады могуць парушаць правы чалавека. Знявагу, якую вы адчуваеце сёння, у будучыні могуць адчуць іншыя.*

*Але вы не адзінокія ў сваёй барацьбе. Злучаныя Штаты Амерыкі застаюцца адданымі абароне правоў чалавека на Беларусі. У пасла Спекхарда і ў амерыканскай амбасады ў Мінску няма больш высокага прыярытэту. Заставайцеся з імі ў цесным кантакце.*

*Вашы мужныя намаганні па абароне асноўных правоў чалавека выклікаюць захапленне. Я жадаю вам, вашым мужам, вашым сынам і ўсім тым, каго вы любіце, сілы ў гэты цяжкі час.*

***З найлепшымі пажаданнямі Хілары Родам КЛІНТАН***».

# Хто будзе жыць у Драздах?

*Станіслаў Шушкевіч, які засяляў замежных паслоў у Дразды, адказвае на пытанні нашага карэспандэнта*

**— Былы дачны комплекс ЦК КПБ «Дразды» цяпер называецца «рэзідэнцыяй прэзідэнта». Выселіўшы паслоў з Драздоў, Лукашэнка застаецца там адзіным гаспадаром. Аплачваць гэты гарадок цяпер давядзецца нам, падаткаплацельшчыкам. Як выглядае прэзідэнцкая рэзідэнцыя?**

— Партыйныя чыноўнікі нядрэнна жылі там за народны кошт. Вялізарная тэрыторыя абнесеная манументальным плотам і ніхто не бачыў, што там адбываецца. У Драздах размяшчаўся дом першага сакратара Пятра Машэрава, а таксама іншыя будынкі, добра мэбляваныя і абсталяваныя.

Пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі мы вырашылі размясціць там замежныя прадстаўніцтвы. Яны за свой кошт рабілі рамонт і рэканструкцыю будынкаў. Потым я быў, напрыклад, у рэзідэнцыі французскага пасла, якая ператваралася ў маленькі Парыж. Немцы вельмі сур'ёзна папрацавалі над абсталяваннем і дызайнам, зрабілі камфортную амбасаду. Вялікія грошы ўклалі таксама італьянцы, іхні першы пасол нават сабраў там прыстойную калекцыю карцін. Вельмі ўтульна стала і ў амерыканскай рэзідэнцыі. Дыпламаты арандавалі будынкі на падставе двухбаковай дамоўленасці з нашым урадам. Папярэдні французскі пасол Клод Жаліф гаварыў мне, што раней у Драздах было спакойна, а як туды засяліўся Аляксандр Лукашэнка, то стала страшна выглянуць, бо каля суседняй прэзідэнцкай рэзідэнцыі ходзяць аўтаматчыкі і пазіраюць вельмі падазрона.



***Няма таго, што раньш было.** На здымку (з архіва СВАБОДЫ): прэзідэнт Біл Клінтан прымае ў Белым доме кіраўніка беларускай дзяржавы Станіслава Шушкевіча (ліпень 1993 г.).*

Зразумела, Лукашэнка ўсяго баіцца, нават свайго акружэння, а замежных паслоў ён наогул лічыць ворагамі. З імпэтам старшыні калгаса ён вырашыў разабрацца з дыпламатамі, як з калгаснымі брыгадзірамі. Такое ўмяшальніцтва забараняецца Венскай канвенцыяй. Рамонт камунікацыяў быў задуманы толькі дзеля таго, каб выжыць паслоў з Драздоў. Паверце, калі б там былі нейкія каналізацыйныя праблемы, ніхто не заключаў бы доўгатэрміновыя арэндныя дамовы. У «партыйныя» дачныя комплексы ўкладваліся вялікія грошы, усё будавалася на стагоддзі. У былой маёй рэзідэнцыі, дзе цяпер жыве прэзідэнт Лукашэнка, можна яшчэ 30 гадоў жыць без усялякага капітальнага рамонту. Там усё лепшае закладзена і зроблена вельмі багата.

**— Чаму вы не захацелі там жыць?**

— Калі мы з жонкай пагледзелі на гэтую рэзідэнцыю, вырашылі, што з этычных меркаванняў жыць там немагчыма. Навошта нам на трох 560 квадратных метраў жылой плошчы. Там тры ўзроўні, унізе вялікі басейн, саўна, спартыўныя памяшканні, вельмі шмат спальняў і розных пакояў. Некалькі разоў я выкарыстоўваў гэтую рэзідэнцыю для паседжанняў Прэзідыума Вярхоўнага Савета ў нефармальнай абстаноўцы, але ніводнага разу не начаваў, мне вялікай плошчы не трэба. У казённай хаце я не адчуваю сябе гаспадаром, люблю мець мала, але сваё.

У гэтай жа рэзідэнцыі я сустракаўся з амерыканскім паслом Суорцам, калі мы абмяркоўвалі арганізацыю візіту ў Мінск прэзідэнта Біла Клінтана. Рэзідэнцыя ў Драздах меласа варыянтам гасцявога дома. Пасол Суорц сказаў, што яна адпавядае самым высокім стандартам у свеце і нават для прэзідэнта ЗША занадта добрая. Там жа я сустракаўся з шэрагам іншых паслоў для сур'ёзных размоў у нефармальнай абстаноўцы.

Пазней, калі там пасяліўся прэзідэнт Лукашэнка, зрабілі дадатковыя ўмацаванні, рэзідэнцыю абнеслі агароджай, паставілі аўтаматчыкаў. Вялікая ахова ўтрымліваецца і ўсярэдзіне. Гэтаму ж чалавеку падабаецца панаваць. Прэзідэнт Лукашэнка раней меў халупу без санітарных пабудоваў пры доме, а цяпер яму ўжо мала апартаментаў Машэрава.

(Працяг на стар. 4)

## Ліцэю рыхтуюць новы план

**Сітуацыя вакол Беларускага гуманітарнага ліцэя застаецца няпэўнай, але ўрад абяцае, што гэтая навучальная ўстанова будзе жыць.**

На мінулым тыдні дэлегацыя бацькоў ліцэістаў мела сустрэчу з віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Заматалiным. Заматалін назваў былы праект аб'яднання двух ліцэяў *«глупствам дзяржаўных чыноўнікаў»* і запэўніў бацькоўскі камітэт, што не меў да таго праекта ніякага дачынення. Згодна з новым планам дырэктар і ўсе выкладчыкі ліцэя застануцца працаваць, прычым іхнія заробкі павысяцца. *«Яны адчуюць, што мы аб іх клапоцімся»*, — запэўніў Заматалін. Таксама ён паабяцаў бацькам, што вучні ўсіх чатырох курсаў працягнуць вучобу, прычым у тым самым будынку, дзе ліцэй знаходзіцца і цяпер.

Больш таго, віцэ-прэм'ер намаляваў перад бацькамі ліцэістаў проста фантастычныя перспектывы: дзяржава, аказваецца, ужо ў наступным годзе возьмецца будаваць для іншагародніх ліцэістаў інтэрнат. *«Я лічу, што пастанова, якая зараз рыхтуецца, будзе скіраваная на паляпшэнне ўмоваў вучобы для вашых дзяцей»*, — заявіў Уладзімір Заматалін. Віцэ-прэм'ер аднак адмовіўся паказаць бацькам хаця б «чарнавік» гэтай пастановы, заявіўшы, што ўзгадняць гэтыя дакументы з грамадскасцю ўраду не абавязкова.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## ТБМ апынулася на вуліцы

**Учора Таварыства беларускай мовы было выселенае са свайго офіса на вуліцы Румянцава ў Мінску.**

Высяленне адбывалася ў прысутнасці міліцыі, судовага выканаўцы і невялікай колькасці журналістаў, што адгукнуліся на сігнал *SOS* з ТБМ. Прычына высялення — запазычанасць за арэнду памяшкання. Грамадскую арганізацыю прымусілі плаціць за кожны квадратны метр 10 долараў у месяц. У выніку з пачатку года набралася больш за палову мільярда запазычанасці. Мінскі абласны гаспадарчы суд пастанавіў спагнаць з ТБМ 540 мільёнаў і выселіць з памяшкання.

Уся працэдура па высяленню ТБМ заняла дзве гадзіны. Большасць часу была патрачаная на пагрузку ў прычэп трактара стосаў кніжак. Сярод іх былі кнігі «Беларусь учора і сёння», «Русіфікацыя беларускай мовы ў БССР і супраціў русіфікацыйнаму працэсу» ды іншыя. Ад былой сядзібы ТБМ трактар з гэтай літаратурай адправіўся ў невядомым накірунку.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Экзамены прымае Дамашкевіч

**За ходам уступных экзаменаў у ВНУ сёлета будзе ўважліва сачыць прэзідэнцкая камісія на чале са старшынём камітэта дзяржкантролю Мікалаем Дамашкевічам.**

Прэзідэнт Лукашэнка выдаў указ, у адпаведнасці з якім уступныя іспыты пачнуцца ў ліпені з пісьмовых кантрольных работ па беларускай (рускай) мове. Тэмы сачыненняў будуць абвешчаныя па тэлебачанні і радыё. Прэзідэнцкая камісія будзе выконваць таксама прапагандысцкія функцыі — у яе задачы ўваходзіць *«арганізацыя асвятлення ходу правядзення ўступных экзаменаў у сродках масавай інфармацыі»*.

**М.Н.**

## Пакрыўдзілі Рыгоравіча

**З учарашняга дня спынена трансляцыя папулярнай перадачы тэлекампаніі НТВ «Час быка».**

Афіцыйны Мінск сцвярджае, што ў адным з выпускаў перадачы яе вядучы «гнусно оскорбил в эфире президента Лукашенко». Каментуючы скандал з ад'ездам паслоў, тэлежурналіст абазваў беларускага прэзідэнта «болваном и хамом». У той жа дзень на такую характарыстыку адрэагавала кіраўніцтва Беларусі. Галоўны рэдактар НТВ прызнаў «справядлівымі» нараканні з боку беларускага кіраўніцтва і паабяцаў, што «Час быка» больш не будзе выходзіць у эфір.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

*Сёння — Міжнародны дзень барацьбы з наркотыкамі*

# Наркаманія – новая хвароба Беларусі

**На цяперашні момант на афіцыйным уліку ў Беларусі знаходзяцца 4.000 чалавек, якія стала ўжываюць наркотыкі. Па ацэнках экспертаў, рэальная лічба наркаманаў перавышае 40.000.**

Па словах намесніка начальніка ўпраўлення МУС П.Халюты, на працягу апошніх 25 гадоў у Беларусі штогадовы рост парушэнняў закона, звязаных з наркотыкамі, складае 30—40%. Толькі летась зарэгістравана 2.897 такіх злачынстваў. Пры гэтым рост адзначаецца ва ўсіх рэгіёнах без выключэння. І хоць сумнае лідэрства трымае Гомельская вобласць і гарады Светлагорск і Жлобін, але самы імклівы рост наркаманіі ў мінулым годзе зафіксаваны ў Магілёўскай вобласці.

Летась з незаконнага абароту было канфіскавана амаль 2 тоны 300 кг наркотыкаў. З сярэдзіны 1997 года спецыялісты адзначаюць рэзкае павелічэнне ўвозу і распаўсюджвання гераіну. Гэта, як лічыць П.Халюта, сведчыць аб тым, што ў краіне склалася развітая сетка гандляроў і спажыўцоў, здольных заплаціць за адзін грам гераіну ад 80 да 120 долараў. Гэта дазваляе зрабіць несуцяшальную выснову, што ў Беларусі адбываецца пераход на сур'ёзныя віды наркотыкаў, а наркабізнес набывае сілу.

## Беларусы возяць наркотыкі па свеце

Грамадзяне Беларусі ўсё часцей удзельнічаюць у сусветным незаконным абароце наркотыкаў. Як паведаміў Пётр Халюта, за апошнія тры гады наркакур'ераў-беларусаў затрымлівалі ў Германіі, Аргенціне, Бразіліі, Італіі, Турцыі.

Напрыклад, у Франкфурце былі затрыманыя дзве жанчыны, адна з іх — грамадзянка Беларусі; яны накіроўваліся з Венесуэлы ў Маскву і везлі з сабой 4 кілаграмы какаіну (кошт аднаго грама гэтага наркотыку — каля 150 долараў). Высветлілася, што арганізатарам паездкі быў грамадзянін Лівана, які меў «штабкватэры» ў Маскве і Мінску. Яшчэ адна беларуска была затрыманая ў Бразіліі. Разам з грамадзянінам Японіі яна спрабавала правезці 6 кілаграмаў какаіну (яны перавозілі наркотык у футарале з-пад музычнага інструмента). А на мяжы Расіі і Беларусі ў кантэйнеры, які ехаў на тэрыторыю Польшчы, было знойдзена больш за 3 тоны гашышу.

*БелаПАН*

# Правы чалавека пад кантролем Шэймана

**Дэпутаты прэзідэнцкай палаты правялі ў аўторак прапагандысцкае мерапрыемства пад гучнай назвай «Парламенцкія слуханні па праблеме захавання правоў чалавека ў Беларусі».**

Фармальна паседжанне прымеркаванае да 50-годдзя Дэкларацыі правоў чалавека, якое адзначаецца сёлета ва ўсім свеце. На самой справе ўсё выглядала так, што ўлады хочуць даць чаргову «адлуп крыкунам» і паставіць крыж на самім пытанні — праблемы правоў чалавека ў нас няма.

Прапагандысты паклапаціліся аб інфармацыйнай падтрымцы «слуханняў». Радыё вяло прамую трансляцыю з залы паседжання, а выпускі навінаў на працягу дня пачыналіся з урачыста-трывожных словаў дыктара: «Спецыяльны выпуск!» Акрамя таго, з самай раніцы на праспекце Ф.Скарыны ў Мінску былі ўсталяваныя рэпрадуктары, каб не толькі дэпутаты, але і простыя грамадзяне маглі пачуць, як дзяржава клапоціцца аб правах чалавека.

Галоўнымі дакладчыкамі на слуханнях выступалі буйныя спецыялісты па правах чалавека ў нашай краіне — Мясніковіч, Антановіч, Шэйман, Малафееў, Бажэлка і іншыя, у тым ліку, вядома ж, міліцэйскі міністр Агалец. Многія чакалі з'яўлення ў Авальнай зале галоўнага гаранта правоў чалавека ў нашай краіне, але Лукашэнка так і не прыехаў.

Першым узяў слова палатачны спікер Анатоль Малафееў. Ён прызнаў, што некаторыя заканадаўчыя акты ў Беларусі недасканалыя, ёсць цяжкасці з утрыманнем зняволеных, але асноўныя правы чалавека, несумненна, захоўваюцца. Спікер выказаў спадзяванне, што Захад нарэшце зразумее становішча ў Беларусі і не будзе праводзіць палітыку двайных стандартаў. Антызаходняя рыторыка гучала і ў выступах міністра замежных справаў Івана Антановіча, кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіла Мясніковіча і сакратара савета бяспекі Віктара Шэймана.

У прыватнасці, Антановіч абрынуўся на Злучаныя Штаты за тое, што навязваюць Беларусі і ўсяму свету свае разуменне правоў чалавека. Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства лічыць, што амерыканскія погляды для нас чужыя і таму Беларусь у галіне правоў чалавека супрацоўнічае з такімі краінамі развітой дэмакратыі, як Алжыр, Туніс, Сірыя і Кітай. Антановіч таксама не без гонару заявіў, што і беларускія эксперты 50 гадоў таму ўдзельнічалі ў распрацоўцы Дэкларацыі правоў чалавека, таму, маўляў, у Беларусі даўнія дэмакратычныя традыцыі і няма чаго ЗША вучыць нас правам чалавека.

Міхаіл Мясніковіч падрабязна аналізаваў даклады Дзярждэпартамента ЗША аб правах чалавека, выкрываючы іх неаб'ектыўнасць. Дзеля надання салідных вагі сваім выказванням Мясніковіч ужываў выразы кшталту «яшчэ дзве з паловай тысячы гадоў назад кітайскі філосаф...» Шчодра цытаваў кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі і першага шэфа ЦРУ А.Далеса, яўна ўзяўшы тэкст з савецкіх прапагандысцкіх кніжак.

Аб вераломных планах апазіцыянераў, іх сувязях з заходнімі імперыямі скарагаворкай распавядаў сакратар савета бяспекі Віктар Шэйман. Ён праводзіў прамыя паралелі паміж выказваннямі некаторых лідэраў апазіцыі і мінулагоднімі тэрарыстычнымі актамі на газаправодах, (маўляў, «следства ўжо мае першыя вынікі»), абвінавачваў у дэструктыўнай дзейнасці Беларускі Хельсінкскі камітэт, а паездкі апазіцыянераў за мяжу называў ледзь не дзяржаўным злачынствам. Аднак, па словах Шэймана, ягонае ведамства трымае сітуацыю пад кантролем, і ўлады «не дазволяць ператварыць Беларусь у другое Косава».

Аб правах чалавека таксама пагаварылі старшыні Вярхоўнага і Канстытуцыйнага судоў, генпракурор, міністры юстыцыі і адукацыі, прэзідэнцкія дэпутаты і іншая публіка.

Удзел у слуханнях бралі і 15 дэпутатаў, якія ў прэзідэнцкую палату не ўвайшлі, хоць і вельмі таго хацелі. Цяпер у іх ёсць шанц туды трапіць, бо ў палаце з'явіліся тры вакантныя месцы.

Нагаварыўшыся ўволю і прыняўшы пастанову пра тое, што ў цэлым у Беларусі захоўваюцца правы чалавека, дэпутаты пад вечар разышліся. Наогул жа ўсё гэта нагадвала нешта сярэдняе паміж тэатрам абсурду і партсходам часоў развітога сацыялізму з абавязковымі праклёнамі на адрас Захаду. У гэтым на ўласныя вочы і вушы змаглі пераканацца прадстаўнікі місіі ААН іназіральнай групы АБСЕ, якіх спецыяльна запрасілі на слуханні. Дзеля чаго?

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Без тэрміну даўнасці

**Федэральны апеляцыйны суд у Чыкага аднагалосна зацвердзіў рашэнне аб пазбаўленні грамадзянства ЗША 80-гадовага літоўца Казіса Чурынскаса.**

Нашая газета ў свой час пісала пра гэтага ваеннага злачынцу. У гады Другой сусветнай вайны ён служыў у карным батальёне і ўдзельнічаў у масавых забойствах мірнага насельніцтва ў Беларусі і Літве. Судовыя ўлады ЗША ўзбудзілі супраць яго крымінальную справу.

Чурынскас іміграваў у Амерыку ў 1949 г. і праз шэсць гадоў атрымаў грамадзянства ЗША. Ён сцвярджаў, што з 1936 па 1944 год працаваў млынаром. Аднак у 1997 г. высветліліся сапраўдныя падрабязнасці. Як паведамляе агенцтва *BNS*, цяпер яму пагражае высланне са Злучаных Штатаў.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

# Дэкларацыя правоў чалавека ў вясёлых карцінках

**Прадстаўніцтва ААН у Беларусі ажыццявіла адзін з галоўных праектаў гэтага года — выдала Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека ў коміксах.**

Тэкст Дэкларацыі на рускай мове суправаджаецца каляровымі ілюстрацыямі мастака Ігара Ліпскага. Гэта — сумесны праект ААН, АБСЕ і іншых міжнародных арганізацыяў.

Як паведамілі ў беларускім прадстаўніцтве ААН, праект ажыццёўлены ў рамках мерапрыемстваў па святкаванні 50-годдзя Дэкларацыі. Увесь наклад гэтага каляровага выдання ў 100 тысяч экземпляраў, адрасаванага дзецям і дарослым, будзе бясплатна распаўсюджаны ў навучальных установах і бібліятэках краіны.

*БелаПАН*

# Падарунак ад юбіляра

**Звычайна на юбілей дораць падарункі імяніннiку. Мастак Гаўрыла Вашчанка робіць прэзенты сам.**

Прафесару Беларускай акадэміі мастацтваў Гаўрылу Вашчанку, чые творы ёсць у 27 буйнейшых музеях на ўсіх кантынентах, споўнілася 70 гадоў. Нарадзіўся мастак на Гомельшчыне ў вёсцы Чыкалавічы, што пад Брагінам. З нагоды юбілею Г.Вашчанка падараваў Гомелю 30 сваіх прац, якія будуць змешчаныя ў нядаўна адрэстаўраваным Паляўнічым доміку, дзе знаходзіцца мастацкі аддзел абласнога краязнаўчага музея.

**А.К.**



# Чатыры мушкецёры

*Дэпутаты, якія пакуль што на свабодзе, бароняць дэпутатаў, якія пакуль што ў турме.*

Сваю вулічную акцыю дэпутаты Вярхоўнага Савета прымеркавалі да слуханняў у «нацсходзе», прысвечаных правам чалавека. Канешне, улічваючы стаўленне рэжыму да ўсялякіх там правоў, правядзенне такіх слуханняў можна ўспрымаць толькі як насмешку. Аднак у выніку ўлады паўсталі перад дылемаю: або заплюшчыць вочы на несанкцыяваную акцыю ў цэнтры сталіцы, або, арыштаваўшы дэпутатаў, сапсаваць карцінку беражліва клопату аб правах чалавека.

Карцінку, зрэшты, і без таго сапсавалі. Незадоўга да дэпутацкай акцыі міліцыянты затрымалі і пацягнулі ў дзяжурную частку грамадзяніна Віктара Забалоцкага, які выйшаў на плошчу Незалежнасці, каб выказаць «палатнікам» свой пратэст наконт парушэння ягоных правоў у жыллёвым пытанні. Знайшоў месца і час! Тут не Нью-Йорк і нават не Масква, дзе каля «Белага дома» можна днявалі і начаваць са сваімі патрабаваннямі. Слуханні праводзіліся для таго, каб прадэманстраваць, што ў нас з правамі чалавека ўсё ў ажуры, — а тут нехта з пратэстамі лезе. Сапраўды непарадак!

Пра акцыю ў падтрымку зняволеных парламентарыяў Клімава і Кудзінава было абвешчана на сходзе, дзе прысутнічалі тры дзесяткі дэпутатаў — аднак прыняць у ёй удзел наважыліся толькі 4 чалавекі. Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч, яго намеснікі Аляксандр Дабравольскі і Анатоль Лябедзька, сацыял-дэмакрат Павел Знавец рушылі з плакатамі па праспекце Скарыны да будынка міністэрства ўнутраных справаў, дзе правялі непрацяглы пікет. Рэакцыя прахожых была самай рознай. Частка не звяртала на акцыю спецыяльнай увагі, частка глядзела з відавочнай цікавасцю; некаторыя людзі задавалі пытанні, некаторыя выказвалі спачуванне зняволеным дэпутатам і зычылі поспехаў удзельнікам акцыі, а хтосьці, наадварот, кідаў фразы накшталт «Вашага Клімава наогул павесіць трэба!»

У наступным пункце пікета — ля следчага ізалятара — нарэшце «прачнуўся» падпалкоўнік міліцыі па прозвішчы Храпун. Ён папярэдзіў дэпутатаў, што калі тыя не спыняць пікет у бліжэйшыя 5 хвілін, дык будуць затрыманыя. Праз 5 хвілін дэпутаты гэты пікет такі спынілі — і перамясціліся да будынка рэспубліканскай пракуратуры. Пастаяўшы там, яны накіраваліся ў самае небяспечнае месца — да адміністрацыі Лукашэнкі.

Праводзіць пікет у «святая святых» ім, натуральна, не далі — але не сталі і «хапаць» дэпутатаў. Дзея трохі нагадвала эпізод з фільма «Берегись автомобиля»: абодва бакі дысцыплінавана дачакаліся, калі загарыцца зялёнае святло, і толькі тады пачалі рух. У выніку «чатыры мушкецёры», узброеныя плакатамі, сустрэліся з «гвардзейцамі дыктатара» (якіх было вакол прыблізна 30 чалавек) пасярэдзіне праезнай часткі вуліцы Энгельса, на якой і знаходзіцца будынак адміністрацыі. Такім




чынам, прадстаўнікі ўлады ўшчэнт запрудзілі вуліцу і перапынілі рух транспарту. Міліцыянты даводзілі, што дэпутаты ажыццяўляюць несанкцыяваныя пікеты і шэсце, і прапанавалі ім добраахвотна з'явіцца «на заклание» ў бліжэйшы пастарунак па вул.К.Маркса. Дэпутаты ж даказвалі, што хадзіць па тратуарах пакуль не забаронена. «Вы павінны выконваць Канстытуцыю, а не ўказы вашага шэфа, які хутка апынецца ў дурдоме», — заявіў міліцыянтам Павел Знавец. Дэпутат не ўдакладніў, якому там «шэфу» ён наканаваў такую будучыню, — але міліцыянты вызначылі гэта самастойна і зрабілі Знаўцу заўвагу, што ён «абражае прэзідэнта».

Страціўшы надзею данесці свае патрабаванні непасрэдна да Лукашэнкі, дэпутаты пайшлі на плошчу Незалежнасці, дзе міліцыянты і ўручылі ім позвы з'явіцца ў Маскоўскі РАУС раніцай наступнага дня.

Там жа міліцыянты зрабілі спробу затрымаць Анатоля Лябедзьку. Гэты дэпутат адмовіўся прымаць позву, і быў зацягнуты ў «варанок» — але таварышы адразу ж вырвалі яго з міліцэйскіх лапаў (у самым літаральным сэнсе).

Наступным жа днём удзельнікі акцыі дружна праігнаравалі позвы ў міліцыю. Яны парэкамендавалі міліцыянтам звярнуцца ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета па дазвол на тое, каб прыцягнуць дэпутатаў да адказнасці.

А члены Прэзідыума падчас акцыі праводзілі свае паседжанне. Трэба сказаць, было б больш плёну, калі б замест гэтага яны выйшлі на вуліцу і далучыліся да чатырох сваіх калегаў.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

*Радкі з лістоў*

Мы, члены Гомельской областной организации жертв политических репрессий, до глубины души возмущены решением властей г.Бобруйска, отказавших в сооружении памятника жертвам политических репрессий. Ведь сотни тысяч белоруссов погибли в годы тоталитарного режима, и их дети, внуки не знают, где могут они почтить их память и положить хоть букет цветов.

Мы солидарны с действиями Анны Бокач, которая много сделала для увековечивания памяти жертв политических репрессий. Решение бобруйских властей считаем позорным, недостойным цивилизованного общества.

**И.КАШКИН, И.СЕЛИВАНОВ, М.ГИРИЛОВИЧ, Е.ПАРУБСКАЯ, Р.БРЕЛЬ, Г.КЛИМОВИЧ, А.МИЛЕВИЧ, И.КУШНЕРЕВ,** *г.Гомель*

***Вось такі фотафакт прыслалі нам у рэдакцыю нашыя калегі з «Новай газеты Смаргоні». Дзяржаўны гандаль выбірае той тавар, на які заўсёды ёсць попыт і ад якога хутка бывае прыбытак*** *(здымак зроблены ў краме «Сучаснік»).*

# Я хотел подать в суд на государство

Уважаемая редакция! Хочу через вашу газету вновь вернуться к теме Чернобыля, а именно обратить внимание на проблему семей, в которых онкологически больные дети.

Как правило, эти дети имеют удостоверение пострадавшего от аварии на ЧАЭС (статья 18) и у них есть официальное экспертное заключение с гербовой печатью, что заболевание связано с последствиями аварии на ЧАЭС. Фактически государство признает свою вину. И это естественно, ведь Беларусь была союзной республикой и должна нести свою долю ответственности.

С юридической точки зрения пострадавший имеет полное право подать в суд иск о возмещении морального и физического ущерба, причиненного по вине государства, и получить компенсацию, которая дала бы возможность полноценного лечения, в том числе за границей. Речь не идет о том, чтобы разбогатеть на горе. Никакие деньги не заменят здоровье: жизнь дана Богом, и никто не вправе оценивать ее.

Но в нашей стране — совсем другие законы. Государство взяло на себя право оценивать жизнь человека. Если кто не знает, сколько стоит в нашей стране жизнь, я отвечу — 5 млн. белорусских рублей, или 100 долларов. Такую сумму получает пострадавший в виде единовременной компенсации — столько получил мой ребенок. Как все это осознать? Ведь здесь онкология, злокачественное заболевание, а не какой-нибудь насморк. Ведь вопрос стоит о жизни человека!

Можно, конечно, подать в суд. Но известно, что значит — судиться с нашим государством. А во-вторых, президент своим указом отменил льготу для инвалидов и пенсионеров на уплату судебной пошлины. Откуда у больного деньги (а пошлина составляет 10% от суммы иска)? Почему, за что инвалида фактически лишили права отстаивать свое человеческое достоинство? Почему родители, чтобы вывезти ребенка за границу для определения диагноза либо лечения (у нас не все заболевания лечатся), должны искать каких-то спонсоров? Ведь забота о гражданах — прямая обязанность государства, тем более, что страдают люди по его вине.

О каком лечении в Беларуси можно говорить, если в больнице ребенок может еще получить дополнительно гепатит В, как это случилось с моим сыном? Кто ответит за это? Вот почему, если бы была возможность лечить сына за границей, я не задумываясь сделал бы это. Остается только сожалеть, что живешь в такой стране.

Я знаю, что у государства нет денег на лечение моего ребенка, хотя не понимаю, почему: и народ работящий, и земля, и промышленность, и геоположение, транзиты и многое другое. И все не хватает. А для президента есть деньги — «поболеть» пару недель в Японии, «оздоровиться» в Швейцарии, брать шефство над кораблями, покупать самолеты и т.д. Между тем в больницах нет элементарных медикаментов. А пенсия для ребенка-инвалида — 800 тысяч рублей. Для чего они? Зачем? Что на них купишь больному?

Удивляет и какое-то тупое спокойствие нашего народа. Заболевает и, бывает, гибнет ребенок по вине государства — а родители молчат. В нас начинает проявляться что-то животное. И вполне закономерно, что цена нашим жизням — это цена скотины. И лупят нас на улицах дубинками, потому что цена нам — 100 долларов.

Мой сын заболел 2 года назад. С тех пор жизнь для моей семьи остановилась. Что это такое, понимают, наверное, только родители таких детей, как мой сынок. Никакими словами в полной мере не передашь чувства родителей.

Особенно тяжело видеть, как твой сын или дочь начинают понимать, что это такое — быть инвалидом, но стараются не показывать этого.

**Геннадий Иосифович МАСАЛЬСКИЙ,**
*г.п.Зеленый Бор, Смолевичский р-н (наш поселок, как и весь район, считаются «радиационно чистыми»)*

**КАДРЫ**

***Здымак зроблены ў дзіцячым аддзяленні Беларускага навукова-даследчага інстытута анкалогіі і медыцынскай радыялогіі.***

# «Тунэль Ціцянкова» ў нацыянальным парку

Адным з самых маляўнічых куткоў Беларусі з'яўляецца Браслаўскае Паазер'е. Яго ядро — Браслаўская група азёраў, дзе ў адзіную сістэму злучана звыш 50 азёраў рознай велічыні. Наваколле Браслаўскай групы азёраў — гэта маляўнічае спалучэнне разнастайных ледавіковых форм рэльефа, якое ніколі не стамляе вока. Яшчэ ў 70-я гады на найбольш каштоўных тэрыторыях Браслаўшчыны планавалася стварыць нацыянальны парк. Прыняцце рашэння, аднак, па розных прычынах адкладвалася, а тым часам мясцовыя гаспадарнікі наносілі значную шкоду унікальнай прыродзе рэгіёна. На берагах шмат якіх азёраў былі ўзведзеныя фермы, уладкоўваліся летнія загоны для жывёлы, кар'ерамі нішчыліся формы рэльефа ў маляўнічых кутках, абвастрылася праблема сцёкавых вод Браслава, якія амаль не ачышчаныя скідваліся ў азёрную сістэму.

Рашэнне аб стварэнні нацыянальнага парку «Браслаўскія азёры», прынятае ўрадам Беларусі летам 1995 г., давала надзею, што ў хуткім часе разбуральныя працэсы на ўнікальнай тэрыторыі будуць спыненыя. Але дарэмнымі былі спадзяванні.

### Варварства

На тэрыторыі нацыянальнага парку ёсць некалькі асабліва прыгожых, папулярных у турыстаў куткоў. Адзін з іх — гэта перашыек паміж вялізнымі азёрамі Снуды і Струста. Тут пагоркі ўтвараюць стракатую маляўнічую мазаіку. Сярод пагоркаў вылучаецца гара Маяк, якая з'яўляецца адной з найвышэйшых кропак у наваколлі азёраў, выдатнай аглядальнай кропкай. Гару Маяк здаўна наведваюць шматлікія турысцкія, экскурсійныя групы. Да гэтай кропкі можна даехаць дарогай паміж вёскамі Булавішкі — Кезікі. Ёсць яшчэ адна дарога, палявая, паміж вёскамі Чэрнішкі і Кезікі. Яна адметная тым, што яе палатно бяжыць па перагібах шматлікіх пагоркаў, то рэзка абрываючыся ўніз, то штурмуючы чарговую вяршыню. Вандроўка па гэтай дарозе пакідала незабыўныя ўражанні.

Але ўвосень 1997 г. пад вёску Чэрнішкі прыйшла магутная дарожная тэхніка. Праз пагоркі сталі праразаць роўную дарогу. У імгненне вока прыгажэйшая тэрыторыя была знявечаная. У народзе будоўлю адразу ж ахрысцілі «тунэлем Ціцянкова». Відаць, небеспадстаўна, бо дзесьці побач знаходзіцца прытулак, дзе Іван Іванавіч прыпыняецца падчас прыездаў на Браслаўшчыну. Выглядае так, што ўся задумка з дарогай планавалася пад начальства. Не пашкадавалі нічога — ні ўнікальны ландшафт, ні грошай на будаўніцтва.

Кіраўніцтва нацыянальнага парку аддало вуснае распараджэнне турысцкаму аддзелу ўстрымацца пакуль ад экскурсійных паездак на гару Маяк. Мауляў, неэстэтычны там цяпер выгляд, пройдзе час — траўкай усё зарасце, тады можна вазіць турыстаў. Толькі не прыхаваеш траўкай тое варварства, якое ўчынена на тэрыторыі парку.

**Васіль АЛЯХНОВІЧ,**
*г.Браслаў*

# Яшчэ раз пра магілу Максіма Багдановіча

Лічу неабходным напісаць у вашую газету гэты ліст і ўступіць у палеміку з Паўлінай Качатковай, якая апублікавала ў НАВІНАХ артыкул «На магіле Багдановіча трэба паставіць крыж» (№ 40, 17 красавіка 1998 г.). Артыкул спрэчны, і аргументацыя аўтаркі не ва ўсім пераканальная, а часам пабудаваная толькі на эмоцыях.

Я згодны са спадарыняй Качатковай, што «на магіле Багдановіча трэба паставіць крыж». З гэтай прапановай, я думаю, ніхто спрачацца не будзе. Зусім іншае пытанне наконт пераносу праху нашага вялікага паэта і дзеяча-адраджэнца на Беларусь, у родны край. Ці можна пераносіць прах у новую магілу ў іншую мясцовасць? Ці адпавядае гэта хрысціянскім звычаям? Як ставіліся людзі і царква да гэтага раней?

Добра вядома, што прах і мошчы святых у хрысціянскіх цэрквах не заўсёды заставаліся ў месцы пахавання. Мошчы ўвогуле маглі быць перавезеныя ў розныя храмы. Нашая беларуская святая, агульная для праваслаўных і каталікоў грэцкага абраду, нябесная заступніца беларусаў Еўфрасіння Полацкая памерла і была пахаваная ў Святой Зямлі, у Іерусаліме. Толькі пасля, праз некалькі гадоў, яе прах быў перапахаваны ў Кіева-Пячэрскай лаўры. У 1547 г. Еўфрасіння Полацкая была кананізаваная. У 1870 г. частка мошчаў перанесеная ў Полацк у Спаса-Еўфрасіннеўскую царкву. І, нарэшце, у 1910 г. мошчы Еўфрасінні Полацкай былі ўрачыста перавезеныя з Кіева ў Полацк, на радзіму святой. Другая беларуская святая Софія з роду слуцкіх князёў Алелькавічаў спачатку была пахаваная ў Слуцку; пасля яна была прылічаная да святых, а яе мошчы перавезеныя ў Мінск.

Хачу нагадаць і пра перанос з Масквы ў Мінск праху Янкі Купалы. За мяжой таксама пераносілі прах вялікіх людзей. Напалеон І быў спачатку пахаваны там, дзе і памёр у 1821 г., на востраве Святой Гелены, а ў 1840 г. сын караля Луі Філіпа ўрачыста перавёз прах Напалеона ў Парыж, у Дом Інвалідаў (нацыянальны пантэон Францыі). Праз сто гадоў у Францыю быў перавезены і прах адзінага сына Напалеона І — Напалеона, герцага Рэйхштацкага (банапартысты лічылі яго Напалеонам ІІ). Цяпер і бацька, і сын пахаваныя ў Доме Інвалідаў. Нашчадкі французскіх каралёў з дынастыі Бурбонаў-Арлеанскіх таксама маюць сваё другое пахаванне (з пераносам праху) у касцёле горада Др'ё (на захад ад Парыжа, у дэпартаменце Эр і Луар). Можна прывесці і іншыя прыклады.

Асобныя прадстаўнікі грамадскасці Беларусі звярталіся да кіраўніцтва рэспублікі аб пераносе праху Максіма Багдановіча, калі адзначаліся 90-я і 100-я ўгодкі з дня нараджэння паэта. Тады, у 1981 і 1991 гг., урад адмаўляў, спасылаючыся на неабходнасць узгадніць справу з Масквой. Цяпер іншая сітуацыя: пытацца ў гаспадароў з Масквы грамадзянам незалежнай краіны не трэба. І ўвогуле не абавязкова дзяржаве займацца гэтым пытаннем. Максім Багдановіч належыць не дзяржаве, не яе вышэйшым чыноўнікам, якую б пасаду яны ні займалі, а ўсяму беларускаму народу. Справай перазахавання могуць заняцца грамадскія арганізацыі — спецыяльны грамадскі камітэт або, напрыклад, Беларускі фонд культуры.

У мяне выклікала здзіўленне і абурэнне непрыстойная для аўтаркі артыкула форма выказвання пра вядомага руплівіца беларушчыны Анатоля Белага. Я ўжо не кажу, што знявага іншага чалавека зневажае і саму аўтарку. Але так, як яна напісала ў сваім артыкуле, пісаць нельга. Цытую яе: «Ідэя пераносу праху гуртуе вакол сябе самых розных людзей — ад чыноўнікаў да вядомых авантурыстаў, накшталт Анатоля Белага». Зусім інакш характарызуе А.Белага «Беларуская энцыклапедыя» (т.3, с.82) — «грамадска-культурны дзеяч, калекцыянер... Старшыня грамадска-асветніцкага клубу «Спадчына» (з 1984). Сабраў вялікую калекцыю твораў жывапісу, графікі, медальернага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, арганізоўвае выстаўкі гэтых твораў, выдае каталогі, даведачную літаратуру і артыкулы пра беларускае мастацтва. Ініцыятар і арганізатар устанаўлення помніка М.Багдановічу ў Яраслаўлі (1994)». Намаганнямі Анатоля Белага, за сродкі, сабраныя ім ад розных спонсараў, былі створаныя медныя помнікі Францішку Скарыну, Міколу Гусоўскаму, Кірылу Тураўскаму, бюст Адаму Багдановічу (усё для Мінска), помнікі Ларысе Геніюш для Зэльвы, бронзавы бюст Адама Багдановіча ў Яраслаўлі. А.Белы — сябра Саюза пісьменнікаў і Саюза мастакоў Беларусі.

Шкада, што такая газета, як НАВІНЫ (СВАБОДА), часам дапускае рэштквыя праявы бальшавізму, з яго непавагай да чалавека, тым больш заслужанага. Такія ж выпадкі ёсць і ў іншых газетах.

А што да пераносу праху Максіма Багдановіча на Беларусь, то гэтую ініцыятыву, я лічу, трэба падтрымаць. І на магіле Багдановіча ў Мінску абавязкова паставіць крыж.

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ,**
*доктар гістарычных навук, прафесар*

# Вільня – дыпламатычны гарадок пад Мінскам?

**Замежныя дыпламаты, якіх вымусілі пакінуць рэзідэнцыі ў Драздах пад Мінскам, атрымалі запрашэнне «перасяліцца ў Вільню».**

Як паведаміла агенцтва *ELTA*, старшыня камісіі Сейма Літвы па правах чалавека і знешняй палітыцы Эмануэліс Зінгерыс заявіў, што дзеянні беларускіх уладаў не толькі супярэчаць Венскай канвенцыі, але і груба парушаюць асноўныя правы тых, хто працаваў у амбасадах — і дыпламатычных работнікаў, і тэхнічнага персаналу.

Зінгерыс у той жа час схільны разглядаць гэты дыпламатычны канфлікт як *«частку мэтанакіраванага плана па абмежаванні і звужэнні паўнацэннай беларускай дзяржаўнасці»*. Сённяшнія беларускія ўлады прадэманстравалі, што Мінску быццам бы зусім непатрэбныя цывілізаваныя кантакты з замежнымі краінамі.

*«Вільня знаходзіцца ўсяго ў 180 км ад Мінска, і гэта магло б быць зручнае і бяспечнае месца для размяшчэння дыпламатычных прадстаўніцтваў, акрэдытаваных у Беларусі»*, — лічыць Зінгерыс. Што ж, ідэя не пазбаўленая пэўнага сэнсу, асабліва калі ўлічыць, што Вільня некалькі стагоддзяў фактычна была сталіцай нашых земляў.

Што ж да рэзідэнцыі самога літоўскага амбасадара ў Беларусі, то пасол Літвы В.Баўбліс паведаміў: беларускія ўлады прапаноўвалі яму некалькі варыянтаў перасялення, але ўсе яны былі непрымальныя. *«Гэтаксама непрымальная ідэя размяшчэння некалькіх пасольстваў у адным будынку, пад адным дахам, што настойліва прапануюць беларускія ўлады»*, — падкрэсліў В.Баўбліс. Хутчэй за ўсё Літва будзе будаваць асобную рэзідэнцыю для пасла (тэрыторыя літоўскай амбасады знаходзіцца ў раёне вуліцы Пуліхава ў Мінску, і там цяпер вядуцца мантажна-будаўнічыя работы).

**Магдалена НЕПАКАЙ**

# Хто будзе жыць у Драздах?

*(Пачатак на стар. 1)*

**— Лукашэнка забраў увесь комплекс «Дразды», у якім налічваецца больш за 30 будынкаў. Дарэчы, у свой час БНФ прапаноўваў ператварыць гэты комплекс у дзіцячы лагер для адпачынку. Цяпер выглядае дзіўна: эканоміка ў правале, а прэзідэнт пашырае свае ўладанні і выціскае замежных паслоў...**

— Мне сорамна, што беларускасцю тут нават не пахне. Беларусы ж народ добразычлівы і ніколі так не ставіліся да гасцей. Гэта ж цемрашальства, асабліва калі ўлічыць, што з пасольствамі былі заключаны арэндныя дамовы, яны сталі гаспадарамі і ўклалі туды свае грошы. Сорам, многа адукаваных, прыстойных людзей у тым жа міністэрстве замежных справаў, але яны паводзяць сябе як рабы, ім даводзіцца апраўдваць парушэнне міжнароднага заканадаўства. Той жа Антановіч добра разумее, што адбываецца, але ён заўсёды služыць кіраўніцтву і можа хлусіць, не зважаючы ні на што. Мяне вельмі здзіўляе пазіцыя Расіі, якая падыгрывае Лукашэнку. Набыць зямлю ў Драздах ва ўласнасць можна было толькі па рашэнні Вярхоўнага Савета. Такога рашэння не было. Таму заява расійскага МЗС аддае крывадушшам. Калі спатрэбілася зямля «Кока-коле», было прынятае спецыяльнае рашэнне Вярхоўнага Савета. Расія не магла купіць зямлю, гэта няпраўда.

**— Цікава, хто зойме рэзідэнцыі замежных паслоў?**

— Я думаю, ёсць каму там пасяліцца, апартаменты пуставаць не будуць. Хеўра, якая сабралася вакол прэзідэнта, людзі з капіталам. Дастаткова згадаць таго ж Івана Ціцянкова. Яны хочуць мець там свой лагер. Прэзідэнт Лукашэнка баіцца, што замежныя паслы яго будуць падслухоўваць, шпіёніць. У нас жа зрабілі шпіёнамі турэцкіх дыпламатаў, збілі амерыканскі паветраны шар. Глупства, бо няма тых таямніцаў, якія тут можна выведаць. Проста гэта хвароба, маніякальная падазрэнне, што ўсе ім цікавяцца, і таму неабходна ізаляваца.

**— Скажыце, а калі пры вас засялялі паслоў у Дразды, ці паступалі прапановы ад спецслужбаў паставіць «жучкі» ў рэзідэнцыях дыпламатаў?**

— Я заўсёды быў прыхільнікам падзялення ўладаў. Засяленнем паслоў займаўся ўрад і МЗС. Мы займаліся заканадаўствам.

Але паверце мне: пастаўлення «жучкі» выяўляюцца вельмі проста, калі зрабіць прафесійны аналіз памяшкання. Можа, Лукашэнка і хоча паставіць «жучкі» ў рэзідэнцыях, але гарантую, што з абсталяваннем, якое мелася нават на маёй кафедры, я знайду ўсе тыя «жучкі». Смеху варта, бо памяшканні для перамоваў (у нашых ці ў замежных амбасадах) правяраюцца прафесіяналамі.

Калі трэба падслухаць, ёсць вельмі просты метад, які выкарыстоўвае гукавыя ваганні шкла. Дом на вуліцы Лодачнай, які прапануецца паслам, вельмі зручны для гэтай аперацыі. Можна паставіць апаратуру насупраць, у былым доме палітасветы, які належыць ведамству Ціцянкова, і слухаць, пра што гавораць у любой кватэры. Думаю, што гэта таксама было прааналізавана прафесіяналамі.

**— Як вы думаеце, чаму Лукашэнка ўсё ж такі пайшоў на дыпламатычны скандал?**

— Дастаткова выехаць з Мінска і зайсці ў любую краму — на паліцах там вельмі бедна, але ўсе гавораць пра паслоў. Прэзідэнт Лукашэнка стараецца адцягнуць увагу простага люду ад надзённых праблемаў. Акрамя таго, амбіцыі вельмі вялікія, ён хоча паказаць, што можа дыктаваць умовы Захаду. Хай бы дыктаваў, але каб людзям пры гэтым станавілася лепей.

*Гутарыў*
**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Такія паводзіны Беларусі – шлях у тупік

*Прэс-рэліз міністэрства замежных справаў ФРГ*

20 чэрвеня міністр замежных справаў ФРГ Клаус Кінкель прыняў рашэнне адклікаць з Мінска ў Бон германскага пасла Хорста Вінкельмана да прыняцця далейшых рашэнняў.



*Клаус Кінкель.*

Акрамя таго, беларускі пасол у Германіі Пётр Бяляеў быў выкліканы ў міністэрства замежных справаў Германіі, і яму было прапанавана пакінуць краіну з тым, каб ён у даступнай форме змог перадаць свайму ўраду неадабрэнне дзеяннямі ў рашэнні пытання рэзідэнцыяў.

Міністр Клаус Кінкель заявіў: *«Дзеянні беларускага кіраўніцтва абсалютна незразумелыя. Сваімі паводзінамі прэзідэнт Лукашэнка вядзе краіну ўсё далей у ізаляцыю. Пасля таго, як у мінулым годзе міністры замежных справаў Еўрапейскага Саюза прыпынілі ўсе палітычныя адносіны з Беларуссю на вышэйшым узроўні, беларускі ўрад сваімі паводзінамі, якія супярэчаць нормам міжнароднага права, абрывае дыпламатычны дыялог. Паводзіны Беларусі ў пытанні з рэзідэнцыямі з'яўляюцца беспрэцэдэнтнымі ў гісторыі дыпламатыі: беларускія ўлады парушаюць не толькі міжнароднае права, але і дагаварное права, паколькі заключаная дамова арэнды рэзідэнцыі германскага пасла мае тэрмін дзеяння да 2002 года. Прэзідэнт Лукашэнка павінен бачыць, што такімі паводзінамі ён канчаткова вядзе сваю краіну ў тупік. Урад ФРГ адным з першых прызнаў незалежнасць Беларусі і адкрыў у Мінску пасольства. Мы рабілі ўсё, каб па магчымасці дапамагаць краіне на яе нялёгкім шляху. Таму паводзіны беларускага ўрада сталі для нас глыбокім расчараваннем. Сённяшнія дзеянні кіраўніцтва ў Мінску зводзяць на нішто шматгадовыя намаганні і супярэчаць палітыцы партнёрства і супрацоўніцтва, якую мы стараліся пастаянна праводзіць і ў адносінах з Беларуссю».*

Так адрэагаваў федэральны міністр К.Кінкель на прадпрынятыя беларускімі ўладамі прымусовыя меры, якія зрабілі немагчымым далейшае знаходжанне паслоў у рэзідэнцыях у Драздах. Гэтыя меры яўна супярэчаць міжнароднаму праву і дамовам, што былі заключаныя з беларускім урадам.

*Аддзел прэсы міністэрства замежных справаў ФРГ, Бон, 20 чэрвеня 1998 г.*



*Послы Франции, Великобритании, Италии и ФРГ пьют на прощанье шампанское возле входа в здание, где размещены британская и итальянская миссии.*

# Западная печать комментирует скандал в Беларуси

Если внутри страны накопилась гора проблем, надо срочно найти внешнего врага, и этим принципом авторитарного государственного руководства вновь воспользовался президент Беларуси Александр Лукашенко, считает немецкая газета **«Хандельсблат»**. Разжигая спор вокруг дипломатических резиденций в поселке Дрозды, он ловко отвлекает внимание от тех трудностей, которые все больше начинают ощущать на себе белорусы: пустые полки в магазинах при одновременном обесценивании национальной валюты. Но и это еще не все: изгоняя из страны высокомерных, по его мнению, западных послов, Лукашенко фактически называет виновников белорусских бед. Ведь он уже не один раз заявлял, что этот кризис спланирован Западом. Поэтому выселение дипломатов из резиденций является лишь логическим наказанием, указывает газета.

Немецкая газета **«Франкфуртер Рундшау»** отмечает, что бывший председатель колхоза Александр Лукашенко давно уже ведет себя как помещик-самодур. Разница лишь в том, что Беларусь — не поместье, а государство. Лишь очень немногие осмеляются утверждать, что у Лукашенко есть хотя бы намек на дипломатический лоск. Организованная им травля двух десятков представителей иностранных государств образумила и последних идеалистов — если в этом еще была необходимость.

После отзыва послов Японии, США и стран ЕС из лукашенковского колхоза возник почти беспрецедентный международный конфликт. Хотя резиденции послов не защищены от разрушения временем, однако они должны быть такими же неприкосновенными, как и проживающие в них дипломаты. Изгнание пользующихся дипломатическим иммунитетом жильцов под предлогом срочного ремонта зданий является нарушением элементарных правил международного общения. Поэтому отзыв из Минска послов ряда стран — мера оправданная, считает «Франкфуртер Рундшау».

Итальянская газета **«Република»** считает, что отъезд послов для Лукашенко — политическое самоубийство, которое он совершил, разозлившись на Запад, критикующий его правительство. Президент Беларуси сохраняет верность советским традициям, он «пламенный патриот», которому не чужд культ «одинокого борца». Лукашенко всегда недолюбливал иностранных дипломатов. Он не раз публично обвинял их во вмешательстве во внутренние дела Белоруссии, особенно возмущаясь критикой, которой они подвергали его за авторитарный стиль правления. Однако изоляция, в которой по вине Лукашенко оказывается его страна, чревата катастрофическими последствиями. Без экономической помощи Запада Беларуси грозит крах.

Польская газета **«Жиче»** сравнивает тактику Лукашенко с действиями иракского диктатора Саддама Хусейна. Как и Саддам, стремившийся стать представителем всего арабского мира, Лукашенко мечтает стяжать себе славу предводителя всех славян, которых враждебно настроенный Запад окружил со всех сторон и теперь третирует. И неважно, что большинство славян тяготеют скорее к Западу. Точно так же Хусейн не хотел видеть, что часть арабских стран была против него. По замыслу Лукашенко, у белорусов должно возникнуть впечатление, что они живут в осаждённой крепости, и будет лучше, если они как стадо будут держаться поближе к своему пастуху. А Россия должна проникнуться к Лукашенко уважением за то, что он осмелился бросить вызов Западу и поэтому, может быть, даже заслуживает какой–нибудь пост в Кремле.

*Подготовила*
**Елена ГАРКУША**

# Пазіцыя Вашынгтона

*Заява прэс-сакратара Дзярждэпартамента ЗША*

22 чэрвеня ўрад Беларусі быў праінфармаваны аб тым, што пасол ЗША Дэніэл Спекхард адклікаецца ў Вашынгтон для кансультацыяў.

Пасол Спекхард і яго сям'я пакінулі Мінск 22 чэрвеня. Гэтыя дзеянні былі ажыццёўленыя ў адказ на парушэнне беларускім урадам Венскай канвенцыі аб дыпламатычных зносінах. Паслы дзяржаваў Еўрапейскага Саюза (ЕС) і шэрагу іншых краінаў, акрэдытаваныя ў Мінску, таксама былі адкліканыя. Гэтая аднадушная пазіцыя адлюстроўвае катэгарычнае непрыманне міжнародным супольніцтвам дзеянняў беларускага ўрада.

Злучаныя Штаты таксама праінфармавалі беларускі ўрад аб немэтазгоднасці вяртання ў Вашынгтон пасла Беларусі ў ЗША да спецыяльнага ўведамлення.

Мы ажыццявілі гэтыя дзеянні ў сувязі з тым, што ўрад Беларусі ў пятніцу, 19 чэрвеня, блакіраваў доступ транспартных сродкаў і адключыў камунальнае забеспячэнне ў рэзідэнцыі Дразды, дзе пражывае пасол Спекхард і іншыя паслы. Дзеянні, выкліканыя нібыта неабходнасцю рамонту камунікацыяў, з'яўляліся непатрэбнымі і ўяўлялі сабой намераныя спробы беларускага ўрада выселіць паслоў з іх законных рэзідэнцыяў. Неаднаразовыя намаганні на працягу апошніх двух месяцаў, уключаючы сур'ёзныя папярэджанні беларускаму ўраду на мінулым тыдні, былі адвергнутыя. Дзеянні Беларусі адкрыта парушаюць Венскую канвенцыю і адлаведныя арэндныя дамовы і яшчэ больш пагаршаюць адносіны са Злучанымі Штатамі і іншымі краінамі.

Адкліканне пасла Спекхарда не азначае разрыў дыпламатычных адносінаў Злучаных Штатаў і Беларусі. Пасольства ў Мінску застаецца адкрытым і будзе працягваць прадстаўленне ўсіх паслуг, уключаючы консульскае абслугоўванне грамадзянаў ЗША. Выдача неіміграцыйных візаў для грамадзянаў Беларусі таксама будзе працягвацца.

*Вашынгтон, 22 чэрвеня, 1998 г.*

